(Працяг са стар. 1)

# З МІНУЛАГА РАБОЧАГА КЛАСА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

„Матэрыяльнае становішча" — гэта раздзел, прысвечаны разгляду стану заробкаў, коштаў утрымання, бяспекі і гігіены працы, а таксама жыллёвых умоваў рабочых. Асабліва ў цяжкім палажэнні былі сем'і беспрацоўных рабочых, жылі яны ўпрогаладзь, або карміліся толькі бульбай. Амаль што не было лекарскай апекі, а калі з рабочым у часе працы здарыўся няшчасны выпадак, атрымаць пенсію па інваліднасці было надта цяжка. У даваеннай Беласточчыне пераважалі кватэры з 1-2 памяшчэннямі, малыя, цесныя, без вады і якіх-колечы санітарных абсталяванняў. „...71 прац. агульнай колькасці жыхароў ваяводства займала кватэры з 1—2 памяшчэннямі, 26 прац. з 3—4 памяшчэннямі і толькі 2,8 прац. жыхароў мела большыя кватэры", — піша Ю. Кая.

Варта прыгадаць, што ў 1937/38 навучальным годзе не хадзіла ў школу ў Беластоцкім ваяводстве 31 тысяча дзяцей ва ўзросце ад 7 да 13 год, гэта складала 13,3 прац. агульнай колькасці дзяцей, абавязаных да вучобы ў школе. Сярод жа дарослых кожны чацвёрты жыхар Беласточчыны быў непісьменным, а ў Сакольскім павеце стан непісьменных складаў 37,7 прац. агульнай колькасці жыхароў. Нягледзячы на тое, што ў ваяводстве было амаль 300 тысяч беларускага насельніцтва, тут не працавала ніводная школа, у якой навучалася б беларускай мове. Гэтыя і мноства іншых праблемаў разглядаюцца ў раздзеле „Асвета і магчымасці прафесіянальнага і культурнага росту".

Не лепш выглядала справа таксама і з аховай здароўя, калі ў 1937/38 г. у ваяводстве працавала ўсяго 414 лекараў і на кожнага з іх прыходзілася па 3 969 жыхароў. Справы стану аховы здароўя разглядаюцца ў раздзеле спецыяльна прысвечаным гэтай тэме.

Заключны раздзел працы прысвечан агляду забастовачнага руху на Беласточчыне.

Аўтар прыводзіць таксама надта багаты спісак крыніц, з якіх пачарпнуў дадзеныя, выкарыстаныя ў манаграфіі. Гэта таксама вельмі каштоўны ўклад у бібліяграфію Беласточчыны, якой, на жаль, да гэтай пары няма.

Праца Ю. Каі, з'яўляючыся другой па чарзе і другой у бягучым годзе выдадзенай Цэнтрам навуковых даследванняў у Беластоку кнігай у серыі даследванняў і манаграфій, у вельмі карысным святле прадстаўляе наш малады, але надта ж пладавіты навуковы цэнтр. Гэта прарочыць і на будучыню, што ад яго можна спадзявацца і далейшых адкрыўчых і салідных публікацый. (мг)

Józef Kaja, Klasa robotnicza Białostocczyzny 1929—1939. Struktura i warunki bytu, PWN, Warszawa 1974, stronic 208, cena 48 zł.

Сярод беларускіх велагоншчыкаў

# ШЫРОКАЙ ДАРОГІ...

Нядаўна дарогамі Літвы і Польшчы праімчала чарговая Балтыйская велагонка дружбы. З'яўляецца яна аглядам маладых велагоншчыкаў Польшчы, Савецкага Саюза, Чэхаславакіі, ГДР і Венгрыі. У гэтым цікавым спартыўным мерапрыемстве гартавалі свае майстэрства будучыя куміры шашы: С. Шозда, Т. Мытнік, В. Нялюбін, А. Пікус і іншыя.

Сёлетняя велагонка была дзесятай па чарзе і праходзіла на шляху Вільнюс-Гданьск. Сярод 12-ці каманд, якія ўдзельнічалі ў ёй, была і зборная Беларусі. Беларускія спартсмены ўжо некалькі разоў спрабавалі сваіх сіл у гэтым спаборніцтве веласіпеднай моладзі, але дагэтуль без больших поспехаў.

— Як у гэтым годзе? — пытаю трэнера зборнай БССР — Сяргея Юшкова — на мэце VI этапа ў Ломжы.

Даведаўшыся, што я карэспандэнт беларускага часопіса, ён усміхаецца і гаворыць:

— Беларускія велагоншчыкі, якія выступалі да гэтага года ў Балтыйскай велагонцы дружбы не выдзяліліся шмат чым. Сёлета мы сабралі даволі моцны калектыў. Хлопцы, прадстаўцеся!

Шымановіч... Дайдаў... Дэжыц... Ушыкаў... Бакуланаў... Радзец — запісваю прозвішчы маладых спартсменаў. Пасля гэтага Сяргей Юшкоў працягвае сваю думку:

— І таму маю права спадзявацца добрай язды ад сваіх падначаленых.

— Але, пакуль што, не едзецца вам найлепш. Учора ў Беластоку нікота з вас не было ў першай групе?

— Стартавалі мы даволі ўдачна, Шымановіч заваяваў другое месца на першым этапе. Потым аднак было горш, праследвалі нас выпадкі і дэфекты. На шчасце ўсё гэта за намі. Цяпер мы едзем усё лепш.

— Вы ўжо два дні ў Беластоцкім ваяводстве, якія ўражанні вы вязеце ад нас?

— Сустракаем усюды цёплы, сардэчны прыём. Рады вітаючых людзей уздоўж усёй дарогі, прыгожа прыбраныя гарады і вёскі, добрая арганізацыя сведчыць аб тым, што велагонка дружбы карыстаецца ў Польшчы вялікай папулярнасцю. Мы будзем прыемна ўспамінаць вашу краіну.

Дзякуючы за размову, прашу беларускіх спартсменаў зрабіць памятную фатаграфію для „Нівы".

— Мы фатаграфаваліся пасля першага, добрага для нас этапа і потым былі самыя няўдачы, — уключаецца ў размову адзін з каманды.

— Хлопцы, станавіцеся! — моцна, як у час язды, загадвае Сяргей Юшкоў. — Гэта ж спецыяльна для нашых братоў у Польшчы.

І хлопцы пазіруюць перад фотаапаратам.

— Дзякую за фатаграфію. Спадзяюся, прынясе вам шчасце. Шырокай дарогі! Да сустрэчы ў наступным годзе!

— Дзякуем, прывітанні чытачам „Нівы".

*

Здымак аказаўся шчаслівым. Зборная Беларусі паехала далей вельмі добра. Дабілася яна высокага, шостага месца ў камандным заліку, а яе член, Ізот Ушыкаў, заняў дасканалае, чацвёртае месца ў індывідуальным заліку.

Гутарыў **Л. Ваўранюк**

Велагоншчыкі БССР на мэце VI этапа ў Ломжы. Фота **З. Зарэмбы**




# TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 8.IX.** 6.50 Kurs Rol. 7.55 Przyp., radz. 8.05 Bieg po zdrowie. 8.15 Pr. dnia. 8.20 Antena. 8.35 Teleranek. 9.25 Now. w domu i zagr. 9.50 Centralne Dożynki. 13.00 Dziennik. 13.20 Legendy — film dok. 13.50 Dla dzieci. 14.30 Ex libris. 14.40 Postaw się, nie zastaw się. 15.30 Refleksje ob. 15.45 Los. Toto — Lot. 16.00 Mistrzostwa Europy w lekkoatletyce — finały. 18.40 Skarb z Penagiuriszte — film. 19.00 Wystąpienie Amb. Korei 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Jordanka Christowa — recital pios. 20.40 Zgadnij, kto przychodzi na obiad — film fab. USA. 22.25 Sport.

**Poniedziałek 9.IX.** 13.25 Tech. Rol. Wskaz. metod. 16.10 Pr. dnia. 16.15 Oferty. 16.30 Dziennik. 16.40 Zwierzyniec. 17.25 Echo stad. 17.50 Kur. Maz. 18.05 Kobieta w karykaturze. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Dobrej drogi Bułgario — pr. dok. 19.10 Wystąpienie Amb. Bułgarii. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Teatr Faktu: I. Radojew — Czerwone i brunatne. 21.55 Światłoczuły notatnik. 22.40 Dziennik.

**Wtorek 10.IX.** 7.00 Tech. Rol. Wskaz. metod. 10.00 Dla szkół (kl. IV) J. pol. Z Syrenką w herbie. 11.05 Dla szkół: (kl. III lic.) J. pol. H. Ibsen „Nora". 11.40 Siedem romansów Donii Juanity — film NRD. 13.45 Tech. Rol. Chem. 14.30 Botanika. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla dzieci. 17.05 Witold Gruca. 17.35 Studio Tel. Mł. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Pol. Film Dokument. „Akcja Dorsze". 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Siedem romansów Donii Juanity — film NRD. 21.15 Sport. 21.25 Interstudio. 21.55 Recital S. Krajewskiego. 22.25 Dziennik.

**Środa 11.IX.** 6.30 Tech. Rol. Chem. 7.00 Botanika. 7.30 Trylogia o Maksymie — cz. I — film fab. radz. 9.00 Dla szkół: Chem. (kl. VII) Czym są metale. 10.00 Dla szkół: (kl. VII) Fiz. Siły i maszyny. 11.05 Dla szkół: (kl. VII) Hist. Jan Henryk Dąbrowski. 12.00 Dla szkół: (kl. VIII) Chem. Ropa naftowa. 12.45 Tech. Rol. Hist. 13.25 Upr. roślin. 16.25 Pr. dnia. 16.40 Dla mł. widzów. 17.10 Inf., Tow., Prop. 17.25 Los. Mał. Lot. 17.35 Z cyklu: Zapisane w pamięci — Litery. 18.05 „Mity" K. Szymanowskiego. 18.30 Kr. Warsz. i Maz. 18.50 Moda Polska ze Szczecina. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Filmoteka arcydzieł: Młodość Maksyma — film fab. radz. cz. I. 22.00 Sport. 22.15 Chile — film dok. 22.55 Dziennik.

**Czwartek 12.IX.** 6.30 Tech. Rol. Hist. 7.00 Upr. roślin. 9.00 Dla szkół: (kl: VIII i I lic.) Przysp. obr. Obrona Ojczyzny. 10.00 Dla szkół: (kl. VI) Hist. Dwa miecze. 10.35 Al Capone i inni. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 15.05 Mat. w szk. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Ekran z bratkiem. 17.40 Lasowiacy (Z ludowej szkatuły) — pr. folkl. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Sezam. 18.55 Test Sł. Ekonom. 19.10 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Al Capone i inni. 21.10 Sport. 21.25 Czym żyje świat.. 21.55 Kwiaty z tamtych lat odc. II. 22.30 Dziennik. 22.45 Inf., Tow., Prop.

**Piątek 13.IX.** 6.30 Tech. Rol. J. pol. 7.00 Hod. zwierz. 9.00 Dla szkół: (kl. III) Tajemnica Warsz. Zamku. 9.20 Janosik. 11.05 Dla szkół: (kl. I—III lic.) Wych. tech. Nowoczesny zakład prod. 12.00 Dla szkół: (kl. VII) Geogr. Rzeki Europy. 12.45 Tech. Rol. Hod. zwierz. 13.25 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pora na Telesfora. 17.20 Wych. fiz. receptą na zdrowie. 17.45 Dla młodzieży. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.45 Dialogi hist. 19.15 Przyp., radz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Janosik. 21.05 Panorama. 21.45 Teatr TV: A. Arbuzow — Stracony syn. 23.05 Dziennik. 23.20 Sport.

**Sobota 14.IX.** 6.30 Tech. Rol. Hod. zwierz. 7.00 Mech. rol. 10.00 Która następna? — film fab. węg. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Upr. roślin. 15.05 Pr. dnia. 15.10 Pr. I prop. 15.25 Inf. Wyd. 15.50 Red. Szk. zapowiada. 16.00 Dziennik. 16.10 Sobótka. 16.40 Dla młodzieży: Emisariusz cz. I (Rok 1809). 17.35 Szare na złote. 18.05 Śpiewają NOVI SINGERS. 18.30 Pegaz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 Teatr Roz.: J. Brdecka — Lemoniadowy Jim. 21.55 Sport. 22.10 Dziennik. 22.30 Która następna? — film fab. węg.

# ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 6.IX** — 8.15 Spektakl TV. cz 2. 17.10 cz. 3. 19.30 Sopot — 74.

**Sobota 7.IX** — 9.50 Pr. muz. 11.20 Operetka. 11.50 Moskwa i moskwianie. 12.20 Zdrowie. 12.50 Film fab. 13.35 Koncert. 14.05 W świecie zwierząt. 19.30 O balecie. 20.40 Sport.

**Niedziela 8.IX** — 11.30 Film fab. 13.15 Pr. muz. 14.25 Cyrk. 15.00 Panorama międzynar. 15.30 Filmy anim. 16.15 Śpiewa M. Nikołowa. 16.40 Klub filmowy. 17.40 Film fab. 20.15 Sport.

# KIHO

**Białowieża** Klute — USA 10—11. Front wyzwolenia — pol. 12—13. Komandosi — włosk. 14—15.

**Czeremcha** Nieszczeście Alfreda — franc. 10—11. Zazdrość i medycyna — pol. 14—15.

**Czyże** Królowa Dzikiego Zachodu — franc. Sąsiedzi — pol. 11—15.

**Gródek** Jeździec bez głowy — radz. 14—15.

**Kleszczele** Jestem niewiernym mężem — franc. 10—11. Czyste ręce — rum. 12—13. Nie będą cię kochać — pol. 14—15.

**Michałowo** Zbereźnik — angl. 10—11. Bez wyraźnych motywów — franc. 12—13. Ciepło twoich rąk — radz. 14—15.

**Narew** Monolog — radz. Ogniomistrz Kaleń — pol. 11—15.

**Nurzec** Alfa, Romeo i Julia — węg. 10—11.

**Motodrama** — pol. 12—13. Krajobraz po bitwie — pol. 14—15.

**Orla** Ten okrutny nikczemny chłopak — pol. Młynarczyk i kotka — NRD 11—15.

**Suchowola** Wielki łup gangu Olsena — duń. Ostatni po bogu — pol. 11—15.

B.Z.Graf. zam. 2193 O-3

30 ГАДАВІНА ВЫЗВАЛЕННЯ СОФІІ

# КРАІНА ТУРЫЗМУ І ПРАМЫСЛОВАСЦІ

9 верасня Балгарыя адзначае сваё нацыянальнае свята — 30 гадавіну вызвалення Софіі.

У Балгарыі давялося мне быць некалькі разоў (апошні раз — у маі г.г.). Кожны раз кідалася ў вочы нешта новае, што робіць мясціну, вуліцу, прадпрыемства непазнавальным. Хоць бы, для прыкладу, аэрапорт у Варне. Некалькі год назад гэта быў старэнькі аэрадром для ўнутранага карыстання. А сёння — гэта новы, сучасны, міжнародны аэрапорт.

Найбольш славіцца Балгарыя гасціннасцю. На пабярэжжа Чорнага мора прыязджаюць штогод мільёны турыстаў. У мінулым годзе адпачывала тут больш 3 мільёнаў іншаземцаў, у тым ліку каля 150 тысяч — з Польшчы. Для турыстаў падрыхтавана больш 350 тысяч ложкаў у гасцініцах і прыватных кватэрах.

Прапаную кароткую прагулку па некаторых кутках балгарскай рыв'еры.

Варна — турыстычны цэнтр балгарскага ўзбярэжжа, найбольшы горад Балгарыі пасля Софіі і Плоўдзіва. У апошні час Варна становіцца вялікім, па-сучаснаму абсталяваным гандлёвым портам. Гордасцю Варны і ўсёй Балгарыі з'яўляецца вялікая суднаверф. Тут будуюцца судны таксама і для Польшчы. У Варне ёсць некалькі вышэйшых навучальных устаноў, а сярод іх — Вышэйшая школа народнай гаспадаркі, дзе знаходзіцца папулярны факультэт міжнароднага турызму.

Варна мае сваю багатую гісторыю, з якой знаёмімся ў шасці музеях. Варта тут толькі ўспомніць, што на месца сённяшняй Варны яшчэ ў VI веку да нашай эры прыбылі грэкі і заснавалі тут пасяленне Адэсас. У барацьбе з туркамі тут, каля Варны, (10.XI.1444 года) загінуў кароль Польшчы і Венгрыі, 20-гадовы сын Уладзіслава Ягайлы Уладзіслаў Варнэньчык.

З Варны па праспекту Леніна мы пад'язджаем да курортаў „Дружба" і „Залатыя Пяскі". У „Дружбе" для турыстаў пабудавана 20 гасцініц і рэстаранаў. Значна большым і, здаецца, больш разнастайным з'яўляецца курорт „Залатыя Пяскі". Тут, сярод зялёных лясоў, якія цягнуцца амаль да самага мора, пабудавана 75 сучасных гасцініц. Адначасова тут можа адпачываць 17 тысяч чалавек. Курорт пачалі будаваць у 1956/57 гадах. Працавала тут 30 маладых архітэктараў пад кіраўніцтвам вядомага спецыяліста Георгія Генева. „Залатыя Пяскі" разбудоўваюцца далей.

Мясцовыя бары, рэстараны і буфеты абавязкова забяспечаны халадзільнікамі, таму напіткі заўсёды падаюцца халоднымі. Балгары ўсю гастраномію пабудавалі вельмі ўмела. Стравы і смачныя і прыгожа пададзены, пераважна па нацыянальнаму звычаю. Напрыклад, рэстаран „Цыгански табар". Тут госці сядзяць у сапраўдных цыганскіх вазах з будамі, іграе цыганскі аркестр, выступаюць цыганскія калектывы, афіцыянткі ў цыганскіх касцюмах, а сярод гасцей народныя мастакі вырабляюць памяткі для турыстаў.

Трохі далей — сучасны цэнтр адпачынку Албэна. Тут асабліва звяртае на сябе ўвагу арыгінальны архітэктурны стыль. Курортныя гатэлі размешчаны на тэрасах, якія сыходзяць да мора, так, як гаворыць мне Маніка з Балкантурыста, каб з кожнага акна можна было глядзець на мора. Гэты комплекс разлічаны на 10-12 тысяч гасцей.

Далей за Албэнай — грэчаскае пасяленне з V веку да нашай эры — Балчык. Горад раскінуты на тэрасавых белых скалах. Да 1940 г. тут была рэзідэнцыя румынскіх каралёў і арыстакратыі. У Балчыку можна сустрэць прыгожых сінявокіх дзяўчат са славянскімі рысамі, праўдападобна, патомкаў дабруджскіх татараў.

Аднак трэба памятаць, што сёння Балгарыя — гэта не толькі турызм і пляжы. Тут будуецца атамная электрастанцыя. Нафтаапрацоўчыя камбінаты перарабляюць 16 мільёнаў тон нафты. А па прадукцыі волава Балгарыя займае VIII месца ў свеце.

**А. Карпюк**



Прагнае хараства вока і вузлаватыя пальцы бельскага дойліда ўзводзілі дамы-харомы.



Нават гарадскі калодзеж здзіўляе прастатой і прапорцыямі.

# ЭПІТАФІЯ БЕЛЬСКАМУ ДРЭВУ

У дрэве пісалася багатае мінулае старажытнага Бельска. Яго Замкавая гара, што высіцца цяпер у засені старэчаўліп, і вузкія вулачкі памятаюць звон зброі дружыннікаў кіеўскіх Рурыкавічаў, валынскіх Манамахавічаў і вояў Пястаў мазавецкіх. Пад драўлянымі сценамі бельскай крэпасці яе абаронцы скрыжоўвалі мячы з натоўпамі ваяўнічых яцвягаў, татарскай ардою Батыя і закутымі ў жалеза крыжакамі. Тут пакінулі свой знішчальны след полчышчы шведаў, напалеонаўская конніца і гітлераўскія захопнікі. Шугалі пажары, а на магільніку выраставі шэрагі новых драўляных крыжоў.

Калі ж наставалі мірныя дні, на папялішчы, адгарнуўшы вуголле, таленавітыя дойліды вычароўвалі з таўшчэзных камлёў лёгкія харомы для знаці і купцоў, а для бельскага люду — прыземістыя хаціны.

Стагоддзі ішлі за стагоддзямі, нараджаліся і адыходзілі сотні людскіх пакаленняў. Паўставалі, красаваліся і знікалі драўляныя спадарожнікі чалавека. Бо дрэва, як і чалавек, спачатку ірдзіцца маладым румянцам смалістых слояў і ўсміхаецца да сонца бляскам выглянцаваных сякерай і гэблем бакоў. Але дажджы і вятры, быццам жыццёвыя нягоды, паволі сціраюць краскі драўніннага юнацтва, і толькі пад шэрай патынай гулкім звонам яшчэ адзываецца здаровае сэрца бервяна. Мінаюць зімы і леты, тухнуць сукавіны-вочы, застывае жывіца-сляза. Раматус непагаддзяў і спёкаў карэжыць стройныя калоны і замыславатыя завітушкі, а час выгрызае шчарбіну за шчарбінай у роўненькіх радках зубчастых падстрэшнікаў. Там, дзе некалі яснела шаўкавістая бель, кладуцца глыбокія цёмныя маршчыны. І раптам бервяностарэча ў прадсмертным часе ўздрыгвае і з глухім уздыхам рассыпаецца ў прах-парахно. Адыходзіць у нябыт.

Адыходзіць, як тысячагадовая эпоха драўлянага дойлідства ў старажытным Бельску, саступаючы месца цэгле, бетону, жалезу і шклу.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара



І над натоўпам крыжоў на магільніку пануе драўляная даўняя капліца.



У лаканічнай строгасці колішняй уніяцкай царквы адчуваюцца суровыя часы XVII стагоддзя.

**ФРОНТАМ ДА ВЁСКІ**

## Пенсіі, якія атрымліваюць сяляне ад 1 жніўня 1974 г.

Новы закон аб пенсіях для сялян абавязвае ад 1 жніўня 1974 г. Да гэтага часу сяляне атрымоўвалі пенсіі на аснове закону з 28 сакавіка 1962 г. аб прыняцці дзяржавай сялянскай нерухомай маёмасці для загаспадарвання або ва ўласнасць дзяржавы і аб пенсіях уласнікаў гэтай нерухомай маёмасці і іх сем'яў, а таксама згодна з законам з 24 студзеня 1968 г. аб пенсіях для сялян, якія перадаюць дзяржаве нерухомую маёмасць. Паводле першага закону, пенсія вызначалася сялянам, якія аддавалі гаспадарку або ва ўласнасць дзяржавы, або для загаспадарвання.

Той, хто атрымоўвае пенсію за перадачу гаспадаркі ва ўласнасць дзяржавы згодна з законам з 1962 г., будзе надалей атрымоўваць пенсію, з тым, што будзе яна павышана на 50 прац. Калі ж зямля перададзена дзяржаве для загаспадаравання, то можа яна быць звернута гаспадару або яго наследнікам пры ўмове ўрэгулявання ўсіх павіннасцей у адносінах да дзяржавы, а таксама звароту ўсіх атрыманых сум пенсіі.

Дзяржава пераймала зямлю на загаспадарванне на 10 год. Селянін або яго наследнікі могуць на вышэй пададзеных умовах патрабаваць звароту зямлі яшчэ два гады пасля 10-гадовага тэрміну. Пасля гэтага дзяржава пераймае зямлю ва ўласнасць на ўмовах новага закону аб перадачы сельскіх гаспадарак ва ўласнасць дзяржавы. Гэта значыць, ён атрымае пенсію, якую ўстанаўлівае новы закон. Па прапанове селяніна зямля можа быць перададзена ва ўласнасць дзяржавы раней гэтага тэрміну.

Калі селянін перадаў гаспадарку дзяржаве за пенсію на аснове закону з 24 студзеня 1968 г., то атрымоўвае ён надалей пенсію, якая павышаецца ад 1 жніўня 1974 г. на 50%.

Незалежна ад таго, на якой аснове селянін атрымоўваў дагэтуль пенсію, ад 1 жніўня 1974 г. прыслугоўвае яму права на лекарскую дапамогу, пратэзіраванне, падрыхтоўку да прафесіі і карыстанне домам для пенсіянераў. У выпадку смерці пенсіянера пасля гэтай даты — пахавальная дапамога і пенсія для членаў яго сям'і ўстанаўліваюцца наогул паводле новага закону.

На заканчэнне варта адзначыць, як урэгулявана справа, калі таму, хто атрымоўвае пенсію для сялян, прыслугоўвае іншая пенсія, напрыклад, з умовы аб працы.

Калі селяніну, які атрымоўвае пенсію для сялян, прыслугоўвае таксама іншая пенсія, яму прадстаўляецца магчымасць выбару адной пенсіі, а ў гэтым выпадку яму дадаюць да выбранай пенсіі палову другой. Напрыклад, селяніну належыцца за гаспадарку, якую ён аддаў дзяржаве за пенсію, 1000 зл., а паколькі ён працаваў на прадпрыемстве — яму належыцца пенсія 1500 зл. У гэтым выпадку ён выбярэ апошнюю пенсію і яна будзе павышана на 500 зл. за гаспадарку.

Калі б пенсія за гаспадарку належала ў даным прыкладзе мужу і жонцы, пенсія 1500 зл. была б павышана толькі на 250 зл.

**В. Склубоўскі**

Да першага з'езду беларускага ліцэя ў Бельску

# ПЕРШЫ ЎСПАМІН

У гарачы час падрыхтоўкі да з'езду выпускнікоў беларускага ліцэя ў Бельску пацягнула мяне да першых дзён гэтай школы, да першых выпускнікоў першага беларускага ліцэя, які існаваў у Бельску ў гадах 1944-46.

Першую вялікую матуру (тады выступалі малая і вялікая матуры) у 1946 годзе атрымала 12 асоб. Былі гэта першыя выпускнікі дзяржаўнай сярэдняй беларускай школы ў Народнай Польшчы. 10 з 12 пайшлі вучыцца далей і закончылі вышэйшыя школы.

Да аднаго з тых першых выпускнікоў зайшла я ў бельскую аптэку. І тут



праляцела нам гадзіна хутка і міла на кароткім падарожжы ў першыя гады школы, да тых людзей, якія вялі яе — людзей вельмі заслужаных для развіцця асветы на колішняй вялікай Бельшчыне (даўней Бельскі павет абымаў цяперашнія тры — Бельскі, Гайнаўскі, Сямяціцкі).

Магістр фармацыі Святлана Сычэўская з'яўляецца кіраўніком аптэкі ў Бельску. Сюды, у горад свайго ліцэя, прыйшла пасля заканчэння Люблінскай медыцынскай акадэміі і ўжо 23 гады мінула з таго часу.

У горадзе за гэты час многае змянілася. Вырас ён. На даўнейшым драўляным і разбураным, парослым пустазеллем цэнтры, уздоўж вуліцы Міцкевіча стаяць ясныя „блёкі". На вялікім скверы чырвоныя ружы зіхацяць сярод зялёнай травы. Выраслі ўжо ліпы, пасаджаныя вучнямі беларускага ліцэя, а лякарствы цяпер купляеш у вялікай павятовай аптэцы ў новым доме.

У прыватным жыцці першага выпускніка Беларускага ліцэя таксама былі змены. Выйшла замуж за Аляксея Сычэўскага, таксама выпускніка беларускага ліцэя і таксама працуючага ў аптэцы, цяпер у Храбалах. Не пабаяўся ён, што кожны дзень трэба ездзіць. Раз трэба, дык трэба, Такія яны, выхаванцы беларускага ліцэя.

Другім здарэннем была смерць бацькі — Яраслава Кастыцэвіча, да якога ўсе звярталіся і якога дагэтуль, успамінаючы, завуць проста Яраслаў Васільевіч. Быў ён шматгадовым дырэктарам беларускага ліцэя ў Бельску, дарагім выхавацелем і бацькам для многіх выхадцаў, якія рассеяліся па ўсёй краіне, усюды разносячы пачуццё дысцыпліны, працавітасці і абавязкавасці. Як сведчаць дасыланыя перад з'ездам анкеты, ніякія буры і ніякія адлегласці не парвалі сардэчнай сувязі гэтых людзей са школай і з тымі, хто вывеў іх у свет і навучыў у ім разумна жыць.

Святлана Сычэўская сваю прыстань знайшла ў Бельску, дзе і радзілася, расла, дзе спазнала шчасце і слязу нядолі праліла, дзе на акраінах Бельска хаты ў зелені садоў, а далей аж да небасхілу цягнуцца залочаныя збожжам нівы, шумяць гаі і лясы.

Працяг на стар. 4



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# З ДУМКАЙ АБ БУДУЧЫНІ

Павятовыя ўлады ў Бельску на чале з першым сакратаром Павятовага камітэта ПАРП Аляксеем Лазоўскім і начальнікам павета Дзмітрам Ігнацюком у апошні час шмат прысвячаюць увагі развіццю і ўпрыгожванню павятовага цэнтра.

У бліжэйшы час будуць ліквідаваны будынкі, якія псуюць выгляд горада, многія будынкі будуць адрамантаваны і адсвежаны. Напраўлены будуць маставыя на важнейшых вуліцах, а шэраг вуліц будзе адпаведна асветлена. Адрамантуецца гарадскі фантан, а магчыма нават, што будзе пабудаваны яшчэ адзін фантан, новы. Усё гэта патрабуе шмат працы, але, як вырашылі ўлады, Бельск павінен стаць прыгожым павятовым горадам.

Звернута таксама ўвага на даезды да горада. Па шашы ў Беласток — у Плёскаўскім лесе і па шашы ў Гайнаўку — у Галадоўскім лесе і па шашы ў Сямяцічы — у Піліцкім лесе будуць пабудаваны месцы адпачынку для мясцовых падарожнікаў і турыстаў. Вельмі гэта важная справа, калі хочам, каб належна развіваўся турызм. (мх)

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ХРЫСЦІННАЯ




*Ой, будь жэ там, будь,*
*Дэ жуоночкі п'ют.*
*Вэсёлая дорожэнька,*
*Шчасліворя годінонька,*
*Куды ж воны ідут.*
*Куды ж воны ідут.*

Ад Анны Стахвіюк, год 50, вёска Трасцянка Гайнаўскага павету, запісаў 21 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.

Песня спяваецца ў часе „адведак".




# ТРЭБА ДУМАЦЬ

Шлюбнай жонцы ніколі ні ў чым не адмаўляй — вучаць законы сямейнай стратэгіі; глядзі толькі, каб і табе на карысць гэта выходзіла.

Мая ўзяла і ўперлася, каб неадкладна на нейкія азёры ехаць. Пазагараць, рыбку павудзіць, паадпачываць, адным словам. Не глядзіць, што ў мяне, як на злосць работы па горла назбіралася, на добрых два тыдні стане.

Пасля б — чаму не, сам з ахвотаю паеду. Але яна сваё — цяпер, і гутаркі ніякай быць не можа.

— Ну, добра ўжо, добра, — гавару, — золатца ты маё, няхай па-твойму будзе.

— Толькі што ж ты, зязюленька мая бедная, на сябе надзенеш? Ну, бо тое, — гавару, — што шафа ад шмотак у швах трашчыць, ва ўлік не ідзе. Кабеце адзявацца — з модаю ўнагу, вядома.

Панікла, гляджу, галавою ненаглядная мая, проста душою абмякла. А я ў горад. Мігам туды і назад. І рассцілаю, што вы падумаеце, адрэз матэрыялу. Хоць ты з яго сукенку, хоць ты нагавіцы, хоць ты што хочаш. Вялікія грошы ўваліў, прызнаюся.

Бачу, весялее. Ну цяпер, — гавару, — коцік, за справу. З суседкамі парайся, краўчыху падшукай, дзе чаго дакупі, адна, дзве прымеркі, і ўжо мы па-а-а-ехалі. А я тым часам за сваю работу буду брацца. Хоць і неахвота выезд адкладаць, але за табою, бачыш, затрымка.

Так яно і было. Два дні я спакойна папрацаваў, пакуль яна ўсе журналы агледзела, з суседкамі параілася, і адпаведны фасон выбрала. На трэці дзень, запыхканая, прыбегла, твар ззяе, у руках новыя туфелькі.

А я хоць бы што.

— Цудоўныя, — кажу. — Адразу надзявай на нагу, пашукай адпаведную падшэўку, за матэрыял, да краўчыхі, і ўжо амаль усё. А сам за работу.

Цэлых тры дні было спакою. Ну, бо то колер не такі, то якасць, то я адраю, бо, на мой погляд, не пасуе.

Пасля мы, разам ужо, сандалі выгодныя любай маёй купілі. У туфельках новых бегаючы, мазалі, бачыце, панацірала.

Так што ізноў цішыня. Я сабе працую, а яна ціхенька войкае і ногі ў цёплай вадзе мочыць. А пакуль загаіліся, то я што трэба і кончыў.

Ну цяпер, сэрцайка маё, і паехаць можам.

— А матэрыял, а краўчыха? — пытае.

— Э там, — гавару. — З тваёю фігураю, з тваім выглядам яшчэ сабе будзеш дробязямі галоўку марочыць! Шчыра кажучы, табе ў тых старых нагавіцах і ў зялёным свіцеры заўсёды найляпей было. Памятаеш, мы ў горы ездзілі, то табе больш дваццаці пяці ніхто і не даваў. Ну так, колькі гэта было год таму назад?

— Ну і што, па-мойму ты ад таго часу выразна памаладзела.

— Немагчыма? Сапраўды?

— А як! Клянуся! Зусім так, як і я.

— А матэрыял?

— А што матэрыял? Каб бяды большай не было. Між намі кажучы, эластыкі гэтыя ўжо з моды выходзяць. Так што ты найлепей прадай яго Перавярцінскай — яна, здаецца, пытала. Заадно і туфелькі тыя збудзеш, бо нага ў вас аднолькавая, а там далей відно будзе.

Так і зрабілі. А тады за клункі, за вудачкі — і гайда на тыя азёры. Загарэлі, падурэлі, адпачылі, як мала калі.

Так што самі бачыце, галоўнае — гэта шлюбнай сваёй ніколі і ні ў чым не адмаўляць!

**Ларс**

# ВІЛА У КОЖЫНЕ

Іду праз вёску Кожына, што на Бельшчыне. На вулічным электрычным стаўбе буслы пабудавалі сабе гняздо і выгадавалі буслянят: на рэчцы-ручайку плавае шмат качак і гусак, а побач увязаны на вяроўках і ланцугах авечкі. Вуліца мае некалькі паваротаў, там шмат дрэў, з-за якіх мала відаць некаторыя хаты.

Нельга не спыніцца аднак каля двухпавярховага дома з балконам і гаражом, з прыгожымі сходамі і вокнамі. Такіх дамоў яшчэ мала на вёсках. Мала яшчэ і абсталяванняў такіх, як тут: цэнтральнае ацяпленне, вада з крану, ванна, туалет. Хочацца зайсці ў такую не зусім вясковую хату — больш гарадскую, хату, якую смела можна назваць вілаю. Чысціня і парадак. Мэбляй абстаўлены дом з густам. У „падпіўнічэнні" і кухня, і пакоік, і склад на бульбу і вугаль, і склад на іншыя рэчы.

Прыемна, што ў нашых вёсках сяляне замажнеюць і будуюць такія дамы; прыемна, што не шукаюць шчасця ў горадзе, але знаходзяць яго тут, на вёсцы.

На панадворку гэтага прыгожага дома стаіць трактар, легкавая машына і некамплектны камбайн „Вістуля", а побач з ім, таксама ў мураваным будынку два варштаты: кавальска-слёсарскі і сталярскі.

Жыў тут дзядзька Трафімюк са сваёю жонкаю Аннаю. Ён і столяр, і каменшчык. Трафімюкі ўзялі на выхаванне дачку брата Соню, з якой вырасла прыгожая, мілая і добрая дзяўчына. Аднавясковец з калёніі Валодзя Міхальчук закахаўся ў Соню і прыйшоў у прымакі да Трафімюкоў.

Новы дом будавалі разам. Працавалі цяжка, памагалі і жанчыны. Толькі 9-гадовы ўнук Трафімюкоў Ваня прыглядаўся да таго, як бацька з дзядуляй разам муравалі, рабілі цэнтральнае ацяпленне і каналізацыю.

Гэтая сям'я мае вялікія дасягненні ў вырошчванні сельскагаспадарчых культур, і ў жывёлагадоўлі, а дакладней, у свінагадоўлі. У год прадае каля 20 і больш падсвінкаў. Цяпер у іх хляве стаяць да адкорму 11 пародзістых „вархлякоў".

Уладзімір Міхальчук за добрыя вынікі ў сельскагаспадарчай прадукцыі ўдастоен ганаровага звання „Майстра сельскагаспадарчай прадукцыі" за 1973 г.

Але можна было б назваць яго майстрам сельскагаспадарчай тэхнікі. У яго дасканалы кавальска-слёсарскі варштат, а ён добры спецыяліст у гэтай галіне. Таму мясцовы сельскагаспадарчы гурток і гурток пажарнай каманды прыняў яго на работу механікам, і ён праводзіць рамонт усіх машын гэтых дзвюх устаноў.

Валодзю Міхальчука ўвесь час непакоіла думка, каб пабудаваць уласны камбайн „Вістуля". Збіраў ён розныя часці, розныя вінцікі і г.д. У сакавіку пачаў складваць іх, зварваць паасобныя часткі, адным словам, мантаваць



камбайн. Наведалі мы Кожына 8-га жніўня. Праз некалькі дзён меў ён ужо касіць і малаціць збожжа ўласным камбайнам.

Тэкст і фота: **Міхась Хмялеўскі**



*Уладзімір Васільчук падчас мантажу камбайна „Вістулі".*




## У нязгодзе з буслом

Існуе жарт аб тым, што калі хто-небудзь раскідае буслінае гняздо, дык буслы абавязкова адплоцяць. Яны кожны год прыносяць дзяцей у той дом, ды носяць іх нават не па адным.

Я не ведаю, як там было ў маёй суседкі. Раскідала яна буслінае гняздо ці не, але дзяцей у яе больш як трэба. Сама яна прыгожая і з твару, і з постаці, і ўсмешка сімпатычная, і голас яе мілагучны, і ветлівасці хапае; так што магло б здавацца, што ў яе ёсць салідны муж, што маюць яны дзяцей і кахаюць іх. Але, на жаль, свайго мужа яна не мае, толькі дзеці ёсць. Нядаўна нарадзіла пятую дзяўчынку. Праўда, муж у яе меў быць. Нават вяселле згулялі. Але што здарылася, дык толькі адна яна знае. У кожным выпадку назаўтра раніцай адыйшоў ад яе назаўсёды. Бацькі моцна перажылі гэты факт, прымірыліся з лёсам. Але дзяцей жа дачка радзіць можа... Дык яна родзіць. У хаце пекла, сваркі. З радзільні не хочуць забіраць яе бацькі, адвозіць яе міліцыя і, хочаш не хочаш, бацька і маці мусяць жыць з ёю ў адной хаце і гадаваць унукаў, якіх яна ўсё дабаўляе. Бацькі яе добрыя людзі, працавітыя, маюць свой дом у цэнтры горада, а дачка, адзіная іх дачка, але гулящчая, прыносіць ім многа сораму.

**М. Сваяк**

